


1 Аднойчы наша настаўніца сказала, што акрамя тэмы яна раскажа нам пра мэту ўрока. А часам тую мэту мы будзем вызначаць разам.

1




2 Настаўніца спытала нас, ці зразумелі мы мэту ўрока, якую яна нам паставіла. Яна папрасіла Юрася пераказаць гэтую мэту сваімі словамі - як ён разумее. Потым яна спытала нас, ці нам цікава працаваць над гэтай мэтай і што б мы хацелі даведацца па тэме ўрока. Настаўніца кажа, што хоча, каб мы вучылі тое, што мы самі хочам ведаць.




3 Маруся кінула дыдактычны кубік. Выпала пытанне: "Чаму тэма ўрока важная для мяне?" Паразмаўлялі пра гэта ў парах, нехта з нас шмат што ведае па тэме. А яшчэ абмеркавалі, пра што было б добра даведацца.






4 Мы ўжо падумалі, што пасля такога ўступу настаўніца пачне новую тэму. Але ж не! Яна запыталася: "Як вы даведаецеся, па чым пазнаеце, што вы дасягнулі мэты?" І мы зноў размаўлялі пра гэта ў парах 3 хвіліны.




5 Мы разам устанавілі крытэрыі поспеху: па чым пазнаем, што мэта дасягнутая. Так атрымаўся спіс, які мы запісалі ў сшыткі.






6 Падчас урока настаўніца рабіла "стоп-кадры" і пыталася, ці мы ўжо дасягнулі якога-небудзь з крытэрыяў. Хто дасягнуў, той ставіў каляровую кропку ў сваім сшытку.




7 Настаўніца сказала, што супольнае вызначэнне мэтаў і крытэрыяў поспеху - гэта першы крок у пабудове партнёрскіх адносін паміж намі і ёю. Яна хоча, каб мы свядома вызначалі шлях свайго навучання і адказвалі за яго.






8 Настаўніца кожны раз падводзіць вынікі ўрока і робіць гэта рознымі спосабамі. Нам вельмі падабаецца метад падсумоўчых заданняў. Мы правяраем, ці дасягнулі мы мэты. Тады кожны ведае, пра што даведаўся на ўроку, чаму навучыўся.




9 Настаўніца распавяла, што мы працуем над першай стратэгіяй: "Пастаноўка і ўсведамленне мэтаў навучання і крытэрыяў поспеху". Цяпер я ведаю, чаму і навошта я вучуся.






10 Настаўніца сказала, што крытэрыі поспеху будзем вызначаць да навучальных і да справаздачных заданняў. Дзякуючы гэтаму я ведаю, што трэба рабіць, і не баюся невядомых патрабаванняў. Я запісала сабе ў сшытак: "Маю права на наштобузу!" (На што буду звяртаць увагу?)




11 Настаўніца абвясціла, што на ўроках будзем многае абмяркоўваць. Яна сказала, што вельмі хоча, каб мы задавалі пытанні. Папрасіла, каб мы запісалі ў сшыткі: "Без пытанняў няма навукі!"






12 Мы ўстанавілі правілы і тэхнікі задавання пытанняў і атрымання адказаў на іх.




13 Настаўніца прапануе, каб мы абмяркоўвалі адказ на пытанне ў парах, дае нам час для абмеркавання. Яна кажа, каб мы не падымалі руку, калі знойдзем адказ, яна сама выпадкова некага выкліча. Дзякуючы гэтаму я шмат чаго даведаўся ад Марусі, а яна ад мяне.






14 Настаўніца часта задае нам пытанні для таго, каб ацаніць, ці можна ісці далей па праграме. І мы шчыра паведамляем ёй, калі нешта не зразумелі. Таму ніхто не застаецца ззаду.




15 Настаўніца клапоціцца, каб мы ўсе засвоілі тэму. Яна знаходзіць розныя спосабы і метады, каб нам тлумачыць. Пытаецца, ці ўсе зразумелі, а калі не - тлумачыць яшчэ раз, але заўсёды іншым спосабам, чым папярэдні.






16 Настаўніца арганізуе ўрок так, каб на ім быў час на дыскусіі і пытанні. Яна хоча ад нас атрымаць інфармацыю, чаму і як мы вучымся. Гэта інфармацыя ёй трэба, каб дастасаваць сваё выкладанне да нашых патрэбаў. Мы пастаянна інфармуем настаўніцу. Для гэтага карыстаемся "святлафорамі" і метаднікамі, каб настаўніца ведала, ці мы разумеем.




17 Сёння быў рэвалюцыйны дзень. Настаўніца сказала, што будзе карыстацца актыўнай ацэнкай, а не звычайнай. Яна замест адзнакі будзе даваць нам зваротную інфармацыю: каментаваць, што ў рабоце мы зрабілі добра, што трэба паправіць, і як гэта зрабіць.






18 Дамовіліся з настаўніцай, што падчас навучання мы будзем атрымліваць толькі зваротную інфармацыю, а ў канцы тэмы зробім кантрольную і атрымаем адзнакі ў балах. Чым лепш мы навучымся з дапамогай зваротнай інфармацыі, тым лепшыя будуць балы.




19 Дзякуючы каментарам да маёй работы я магу яе папраўіць. І, калі захачу, магу зрабіць яе ідэальнай. Цяпер я ведаю, што такое адказнасць за навучанне: ад мяне залежыць, якія веды і якую адзнаку я атрымаю.






20 Крытэрыі поспеху (да ўрока, да работы, да справаздачы ці рэферату) дапамагаюць мне атрымаць зваротную інфармацыю не толькі ад настаўніцы, але і ад суседа па парце. Яшчэ я магу праверыць сябе самастойна.

## *Правілы зваротнай інфармацыі:*

З.І.

- *Павага да вучня і яго навучання*
- *Адпавядае крытэрыям поспеху*
- *Датычыць працы вучня, а не асобы*
- *Усталёўвае дыялог паміж вучнем і настаўнікам*
- \+ + – Δ !
- *Дае вучням інфармацыю, якая робіць магчымым і відавочным іх прагрэс.*



21 Як толькі настаўніца пачала даваць нам зваротную інфармацыю, мы адразу сталі адчуваць сябе партнёрамі. Мая мама сказала, што хацела б такіх адносін на сваёй працы.




22 Раней на ўроках мы шмат працавалі самастойна. Цяпер настаўніца нам прапануе ўсё больш працаваць у парах і групах. Мне падабаецца нешта рабіць разам з аднакласнікамі. Так мы вучымся быць партнёрамі не толькі з настаўніцай.




23 Настаўніца дазваляе нам карыстацца і абменьвацца ведамі і ўменнямі з сябрамі. Яна вучыць нас узаемна ацэньваць нашы работы. Настаўніцы гэта таксама дапамагае палепшыць наша навучанне.






24 Мяне здзівіла, што тлумачэнне Марусі я зразумеў лепш, чым тлумачэнне настаўніцы. Настаўніца назвала гэта "узаемным навучаннем".

Цяпер мы і вучні, і настаўнікі адначасова!




- веру ў свае сілы
- мне цікава вучыцца
- у мяне ёсць матывацыя
- я – адказная
- я вучуся свядома
- я – самастойная

25 Настаўніца сказала, што будзе нам дапамагаць, каб мы сталі аўтарамі працэсу свайго навучання. Мне гэта спадабалася. Я сама магу вырашаць, чаму і як мне вучыцца.




*Мая мэта:*

*Быць добрым настаўнікам*

- *цаню старанне маіх вучняў*
- *вучу іх самаацэнцы*
- *даю ім выбар*
- *заахвочваю да самастойнасці*
- *ствараю сітуацыі выкліку*
- *веру ў іх здольнасці*
- *паказваю ім патрэбнасць таго, што яны вучаць*
- *матывую іх да навучання*



- *ужываю 5 стратэгій АА*
- *падтрымліваю вучняў, каб яны сталі аўтарамі свайго навучання*

26 Настаўніца прапанавала нам быць партнёрамі і весці АА-сшытак.




27 Настаўніца патлумачыла нам, што АА-сшытак - не звычайны. Ён будзе дапамагаць нам у навучанні і мець запісы пра тое, што мы для гэтага робім разам.  Гэта сшытак Актыўнай Ацэнкі!






28 У маім АА-сшытку ёсць усё, што можа мне спатрэбіцца. Але самае галоўнае - гэта мой сшытак, я магу ў ім рабіць ўсё, што хачу. АА-сшытак падабаецца маім бацькам. Мы разам яго праглядаем.



29

А што думаюць Вашы вучні?
Пра што яны пытаюцца? Запішыце іх думкі ў аблокі.

